„NIWA“ TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr

# Ніва

№ 13 (109) БЕЛАСТОК, 30 САКАВІКА 1958 г. ГОД II

**Вітаем II-гі З'езд Беларускага грамадска — культурнага таварыства ў Беластоку**

## Кожны з нас адказны за працу БГ-КТ

Здаецца, яшчэ так нядаўна пісалі мы аб вялікім нашым святе, якім, несумненна, для кожнага з нас быў I-шы З'езд прадстаўнікоў беларускага насельніцтва, на якім паклікана Беларускае грамадска - культурнае таварыства, а ўжо маем II-гі З'езд.

Хоць ад 1-га З'езду мінула ўсяго два гады, аднак на працягу гэтага кароткага адрэзку часу шмат чаго змянілася ў жыцці нашай краіны, а затым і ў жыцці нашай, беларускай грамадскасці. Поўныя грамадзянскія правы атрымала ініцыятыва знізу; народныя масы шырокім фронтам уключыліся ў актыўнае будаўніцтва свайго жыцця, узлажылі на свае плечы адказнасць за гэтае будаўніцтва.

Усё гэта павінна надаць характар нашаму З'езду. Клапатлівасць аб правільнае развіццё нашай арганізацыі, аб невыкарыстаныя магчымасці нашай дзейнасці павінна быць пуцяводнай зоркай у абрадах З'езду. I ўпэўнена можам сказаць, што гэтак будзе.

Аб вялікім зацікаўленні працай Таварыства, аб ахвоце прымаць удзел ў гэтай працы, сведчаць павятовыя канферэнцыі БГ-КТ, якія нядаўна закончыліся.

Павятовыя канферэнцыі паказалі, што маем невычэрпныя крыніцы народнай ініцыятывы і ў галіне дзейнасці нашага таварыства. На гэтых канферэнцыях унесена шмат здаровых, творчых думак адносна паляпшэння працы БГ-КТ. Напэўна гэтыя думкі, а таксама і шмат новых, знойдуць абагульненне на нашым З'ездзе і дадуць канкрэтны напрамак для далейшай дзейнасці БГ-КТ.

З таго вынікае, што З'езд не будзе мець святочнага характару, а будзе творчай дыскусіяй, пошукам спосабаў узбагачэння дзейнасці Таварыства. Гэта добра. Бо толькі ў творчай дыскусіі можна выпрацаваць правідловы напрамак.

У дагэтуляшняй працы Таварыства было шмат дасягненняў, але і не менш недахопаў. Гэтыя недахопы будуць шпарчэй запоўнены, калі ўсе актыўна ўключымся ў працу БГ-КТ, калі ў праўленне нашага Таварыства выбярэм адпаведных да гэтай працы людзей, калі выпрацуем канструктыўную праграму нашай дзейнасці, і калі будзем яе кансеквентна рэалізаваць.

I другая справа. Мы жывем не на Марсе, а ў канкрэтных палітычных і эканамічных умовах і таму, каб рабіць менш памылак, наша дзейнасць у першую чаргу, павінна зыходзіць з гэтых умоў. Таму праца Таварыства будзе багатшай, калі яна будзе грунтоўна прадумана.

Менавіта такой дыскусіі жадаем II-гаму З'езду БГ-КТ.

## Беларуская радыёперадача ў Крынках

У мінулую нядзелю (23.III.) праз радыёвузел Крынкі на Сакольшчыне адбылася чарговая радыёперадача на тэму: — «Беларускі нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі».

(ся)



*«Ачыстка поля» — П. Сергіевіч, 1957.*

## Моладзь Кузава рыхтуецца да агляду мастацкай самадзейнасці

Мастацкі гурток у Кузаве, (Гайнаўскі павет), які ўзначальвае Уладзімір Сідарук, пастанавіў узяць удзел у аглядах беларускай мастацкай самадзейнасці.

Гурток пастанавіў падрыхтаваць дзве аднаактовыя п'есы: «Пярэстую Красулю» — А. Чужыніна і «Трэба мамы запытацца» — Галіны Пух. Апрача таго харавы гурток рыхтуе некалькі песень. Грамадскасць пачуе прыгожыя галасы Уладзіміра Сідарука, Алеся Рэпкі, Веры Селях і Надзі Маркевіч.

Моладзь з Кузава пакладае шмат намаганняў, каб іх выступленні былі на высокім мастацкім узроўні, каб у Гайнаўцы ўзяць адно з першых месц і перайсці на ваяводскі агляд. Хто ведае, а можа ў канцы мая г. г. кузаўскія самадзейнікі паедуць са сваімі выступленнямі і ў Варшаву, на агляд мастацкіх гурткоў нацыянальных меншасцей у Польшчы.

На Вялікдзень гэтыя-ж самадзейнікі наладжваюць у сваёй вёсцы пастаноўку п'есы пад загалоўкам «Балладына» Ю. Славацкага.

(мх)

## Ад 30 сакавіка-летні час

Згодна з распараджэннем старшыні Рады міністраў, так як і ў мінулым, так і ў гэтым годзе, ад 30 сакавіка, будзе ўведзены летні час.

Час гэты будзе абавязваць нас да 27 верасня. Затым ноччу з 29 на 30 сакавіка пераcоўваем стрэлкі гадзіннікаў на гадзіну ўперад.

## У згуртаванасці сіла

У сваім артыкуле, змешчаным у 6 (102) нумары «Нівы», сябра Я. С. з Варшавы паставіў на абмеркаванне чытачам пытанні: ці беларускім паэтам і пісьменнікам у Польшчы патрэбна свая арганізацыя? На гэтае пытанне пасля шырокай матывацыі, Я. С. адказвае, што такая арганізацыя з'яўляецца неабходнай.

Маю скромную асобу аўтар артыкула якраз залічыў да творцаў жывога слова, якіх у першую чаргу павінна цікавіць гэтае пытанне. Я цалкам падзяляю думку аўтара артыкула, таму што асабіста адчуваю патрэбу такой арганізацыі. Мне здаецца, гэта не павінен ужо быць саюз пісьменнікаў а звычайнае літаратурнае аб'еднанне пры рэдакцыі «Ніва». Такія аб'еднанні існуюць амаль пры ўсіх абласных газетах у Совецкай Беларусі. Паспрабую і я абасноўваць неабходнасць ўтварэння літаратурнага аб'еднання для ўсіх тых, якія прабуюць свае сілы ў галіне мастацкай літаратуры. Маладым паэтам і празаікам, творы якіх друкуюцца на старонках «Нівы», патрэбная ўсебаковая падтрымка, калі мы хочам, каб гэтыя маладыя людзі хуткім крокам пайшлі наперад.

Асабліва неабходна такая падтрымка для таго, хто першы раз бярэцца за пяро. Ведаю гэта па сабе. Калісці яшчэ будучы дванаццацігадовым хлапчуком, напісаў я першы верш. Паказаў яго сваёй настаўніцы. У адказ ад яе я пачуў: «Прызнайся, адкуль ты перапісаў гэты верш!» У мяне ў вачах закруціліся слёзы. Такая «падтрымка», зразумела, не магла заахвоціць мяне да далейшай працы. Я некалькі разоў у сваім жыцці прабаваў сваіх сіл і ніколі не быў перакананы ў патрэбе пісання вершаў. І толькі ў апошні час, калі да працы заахвоцілі мяне сябры з Варшаўскага Аддзела Таварыства, а таксама сябры «Нівы», я зноў, пасля многіх год пачаў пісаць вершы. І сёння ўжо мяне ніхто не спыніць на тым шляху, дзе я зрабіў свае першыя крокі.

Аднак сябры мне могуць і далей шмат дапамагаць. Асабліва тыя, якія таксама пішуць вершы, якія-б згуртаваліся ў літаратурным аб'еднанні. Засмучае мяне толькі тое, што мала каго з нашых сяброў, творы якіх друкуюцца ў «Ніве», цікавіць гэта праблема. Чаму дагэтуль ніхто з іх не напісаў у рэдакцыю аб неабходнасці такога згуртавання?

З гутаркі з галоўным рэдактарам «Нівы» я даведаўся, што многія маладыя паэты прысылаюць у рэдакцыю свае вершы зусім недапрацаванымі, што праблематыка гэтых вершаў вельмі вузкая. Мне здаецца, у дапрацоўцы гэтых вершаў, а таксама ў пашырэнні іх праблематыкі павінен дапамагчы маладым аўтарам шырокі калектыў зацікаўленых гэтай справай людзей, людзей, якія могуць дапамагчы прафесіянальна.

Думаю, што калі-б існавала літаратурнае аб'еднанне, калі-б маладыя — як іх назваў сябра Я. С. — творцы жывога слова час-ад-часу збіраліся і абмяркоўвалі свае мастацкія творы, гэтыя творы падняліся-б на вышэйшы ўзровень, былі-б больш дапрацаванымі. Маладыя паэты і празаікі і самі пасля такой дыскусіі больш патрабавальнымі былі-б да сябе, больш клапаціліся-б аб узроўні сваіх твораў.

Літаратурнае аб'еднанне дапамагло-б таксама пашырыць праблематыку твораў, пашырыць кругагляд аўтараў.

Творчыя дыскусіі дапамаглі-б маладым паэтам і пісьменнікам вельмі многа. А каб гэткія дыскусіі маглі рэгулярна адбывацца, неабходна згуртаванасць, неабходна арганізацыя, якая кіравала-б гэтай працай.

Таму павінна быць створана літаратурнае аб'еднанне пры рэдакцыі «Ніва», і іменна цяпер, калі большая частка маладых аўтараў, творы якіх друкуюцца на старонках «Нівы», ставяць толькі першыя крокі на ніве мастацкай літаратуры.

Толькі ў згуртаванасці можа праявіцца наша сіла, дарагія сябры.

ВІКТАР ШВЕД

## Усякая ўсячына

### Увескрэсла

Гэта было ў Гамбургу. 17-гадовая дзяўчына Інгрыда вышла ў студзені, гэтага года, з дому і не вярнулася. Пошукі паліцыі не далі выніку. Пасля двух тыдняў знойдзена непадалёк у возеры знявечаныя астаткі дзяўчыны. Бацькі лічылі, што гэта астаткі іх прапаўшай дачкі. Астаткі былі спалены ў крэматорыі і пахаваны.

Пасля двух тыдняў матка дзяўчыны адчыніўшы дзверы нос у нос сустрэлася з «нябошчыцай». Матку непрытомную са страху адвязлі ў бальніцу.

Аказалася, што Інгрыда ўцякла ад бацькоў у пенсыянат і толькі цяпер паліцыя адшукаўшы яе ўгаварыла вярнуцца дамоў, не папярэдзіўшы аб гэтым бацькоў.

### Падвойны сюрпрыз

Якраз на Куццю ў сям'і аднаго рабочага тубыльца ў Сінгапуры нарадзіліся «чварачкі». Праз некалькі дзён радасць шчаслівага бацькі зацямніла нейкая папера прысланая з пошты. Што значыла гэтая на англійскай мове напісаная папера ён не ведаў. Ведаў толькі, што папера ад англійскіх уладаў, а ад гэтых уладаў нічога добрага нельга спадзявацца.

І чаго яны да мяне прычапіліся — засмуціўся тубылец — падаткі заплаціў, караны не быў, дык чаго ім ад мяне трэба?

— Хіба ў войска хочуць паклікаць — дадумаўся ён і пайшоў да вайсковых уладаў.

Калі вайсковыя ўлады растлумачылі яму, што ў войска яго не патрабуюць, тады ён усцешыўся —хіба не менш чым з нараджэння «чварачкаў».

Папера аказалася павіншаваннем англійскай каралевы з выпадку нараджэння «чварачкаў».

### Бусел з пратэзай

Працаўнікі Немвіцкай станцыі ахову птушак дарабілі пратэзу буслу, які страціў кавалак нагі. Бусел прызвычаіўся і дасканала ходзіць на пратэзе, без перашкоды лётае.

### Вырваў зуб

Жадаючы абыйсціся без дэнтыста, чыгуначнік з Канады прыдумаў памагчы сабе самому. Ён прывязаў сабе шнурочак за хворы зуб і прычапіў другі канец шнурка да апошняга вагона цягніка. Цягнік рушыў і ў выніку таго чыгуначнік... зламаў праву руку і выбіў тры здаровыя зубы.

Але хворы зуб усё-ж-такі вырваў.




### Лунатыкі



ЗВЫЧАЙНЫ




...АТАМНЫ

## Рэклама

*Рэклама — рычаг гандлю, вядома, яна развівае гандаль... Зразумела, калі ёсць што і каму рэкламаваць. Інакш, замест рэкламы лухта атрымаецца.*

*Мабыць-жа чытачы бачылі ў газетах малюнак таўстуна, які трымае сіфон у руках з надпісам «Пійце сельтэрскую ваду ў сіфонах», і смяецца. Ён смяецца з таго, што ў нас сіфонаў няма і сельтэрскай вады нідзе не відаць. Каму-ж яна патрэбная, гэткая рэклама, га? Няйначай, гэтую рэкламу аб'явілі людзі, у якіх замест мазгоў сельтэрская вада ў галаве перапіваецца.*

*З кніжных навінак рэкамендуюць купляць кніжку Маргарэт Мішэль — «Пранеслася з ветрам», а гэтай кніжкі ў белы дзень са свечкай не знойдзеш.*

*Калі неонныя лямпачкі свецяцца рознымі колерамі каля кінотэатраў — дык гэта добра, — няхай прыцягваюць людзей да культурных цэнтраў, але выпісаныя неонам «Галька» і «Ёнтэк», нам не зразумелыя. Відаць у нас у выніку недахопу матэрыялаў, крамы папулярызуецца, на жаль людзі цікавяцца не крамамі, а таварамі, — ім тавар патрэбны.*

*Людзі хочуць ведаць таксама, якія тавар шырокага ўжывання практычнейшыя і лепшыя.*

*Калісьці вулічныя гандляры крычалі: «Абутковы крэм Ківі — абутак ажывіць». Цяпер такога крэму для абутку не робяць. Ад цяперашняга крэму абутак робіцца мутны і нібыта глядзіць панура на ўсё, як той скептык, які засеў у гандлёвым апараце.*

*Не ведаю, як хто, але я ніяк не магу зразумець, чаму-ж нам у светлую будучыню йсці ў абутку дрэнна пачышчаным?*

*У нашых установах рэклама таксама развіваецца. Напрыклад: аб адным працаўніку, гавораць вельмі добра, што добра працуе і г. д. Аб другім-жа гавораць: «З яго ні рыба, ні мяса». А калі паглядзець з боку, дык гэты другі так працуе, што нават не мае часу з таварышамі па службе словам замяніць.*

*А першы? — Першы тымчасам дырэктару новы анекдот ужо расказаў, у галоўнага бухгальтара аб здароўі яго жонкі пацікавіўся, з некаторымі на гарэлачку дамовіўся, і г. д.*

*Такім чынам, значыцца, чалавек зрабіў сабе добрую рэкламу.*

*Ды і што тут многа гаварыць, не з таго боку ў нас бяруцца за рэкламу.*

*Гэта факт, и не рэклама.*

Дзядзька Лявон

### Растлумачыў

— Скажы ты Міхась — кажа сусед да суседа, — чаму месяц бляднейшы ад сонца?

— Не ведаю — адказвае Міхась.

— Ведаеш, каб сонца бачыла толькі ўсяго, што месяц у ночы — дык было-б яшчэ больш бледнае...

### Здагадаўся

Было гэта ў даваенны час у Бельскім павеце. Паліцыянт прывёў селяніна ў камендатуру. Стаіць селянін і памалу насцярушана разглядаецца па сценах. Раптам яго ўзрок спыніўся на адной з іх, дзе былі павешаны вялікі крыж, а побач яго партрэты Масціцкага і Пілсудскага.

Камендант паглядзеў на селяніна і кажа:

— Скажы мне мужык, каго бачыш на гэтых партрэтах?

— Не ведаю паночку — адказвае селянін.

— Як гэта, — крыкнуў камендант — не ведаеш хто заўсёды вісіць побач Хрыста распятага на крыжы?

— А-а-а, — схамянуўся ўзрадаваны селянін — ужо ведаю, гэта, паночку, будуць два разбойнікі.

### З добрымі ведамі

Афіцэр пытае салдата:

— Скажыце, калі ласка, што гэта такое дула?

— Дула, дула, так сказаць дзіра аблітая жалезам — адказвае салдат.

### Раскошны ўнучак

Шасцігадовы Вася сеў бабулі на калені і кажа:

— Бабуля прымкні вочы.

— Навошта? — пытае зацікаўленая бабуля.

— Учора татачка гаварыў да мамкі, што як ты прымкнеш вочы, то мы атрымаем многа грошай.

### Пацешыла

Маці рашыла за Марыльку заданне з арыфметыкі, але пры гэтым памылілася і Марылька назаўтра прынесла дамоў двойку. Матцы было непрыемна і яна была сумная.

— Не бядуй — пацяшала яе Марылька, сёння не толькі мама, але і іншыя мамы ў нашым класе двойкі падаставалі.

## Бязрогі баран

*(байка)*

Баран разважыў сваім лбом,
Што ярунда авечы род.
Другая справа звацца псом
Яго шануе ўвесь народ
  І ён рашыў
  Сабакам стаць,
  Узяў рогі збіў,
  Пачаў брахаць.
Адно ўсяго кусаць не мог,
А горш сабак ганяў авец.
І можа-б гэткім ён і здох,
Але ўсяму ёсць свой канец,
Зайшоў ён к пану ў пакой,
Як мог скруціўся пад сталом
Ну акурат як цюцька той,
Ды разваняўся бараном.
  Як возьме пан
  Яго хвастаць...
  Хацеў баран
  Было брахаць,
  А ў страху тым
  Дый забляяў.
  І тут зусім
  Сябе прадаў.
І так быць псом
Баран не змог,
Быў бараном,
Адно без рог.

СТАНІСЛАЎ УЛАДЗІН

### Не зразумела

Прыходзіць жанчына да доктара і просіць, каб запісаў нейкія лякарствы хвораму мужу. Доктар радзіць паставіць п'яўкі. Прайшоў тыдзень, жанчына ізноў з'явілася ў доктара.

— Пане доктар, не памаглі гэтыя п'яўкі, мой муж усё яшчэ хворы.

— А як-жа вы яму паставілі іх? — пытае доктар.

— Я, пане доктар, крыху згатавала іх на малацэ, а другую палову падсмажыла на масле і паставіла мужу. Ён іх з такім смакам з'еў, нажаль здароўе не палепшылася...

## АДГАДАНКА

Ранняя, позняя, птушачка,
прачышчае, прадзірае,
вочкі, а, дзюбачку.

З гэтых слоў пабудуйце сказ у выніку чаго атрымаецца народная прымаўка.

Сярод чытачоў, якія правільна складуць вышэй пададзеную прымаўку і прышлюць у рэдакцыю да 1 мая г. г. будзе разлясавана 10 кніжных узнагарод.

### Развязка адгаданкі з 9 № «Нівы»

На адгаданку, змешчаную ў 9 № «Нівы» рэдакцыя атрымала 168 правільных адказаў.

Развязка: Толькі скнэра і лянівы, не выпісваюць «Нівы».

Кніжныя ўзнагароды вылясавалі наступныя асобы: Надзя ПІЛІПЮК — Бельск; Люба КРАСОЎСКАЯ — Малынка; Міхась ПРАКОПЧЫК — Гураны; Кастусь БЕЛЮК — Сідарка; Станіслаў ХАДКЕВІЧ — Згажэлец над Нысай; Валодзя ЦІЛЮЛЬКО — Сухінічы; Ніна ХОМЧЫК—Поўночны Востраў; Валодзя ДАНІЛЮК — Цялушкі; Валя БУРСА — Калоднае; Яраслаў КЛУСЕВІЧ — Клышаўка.

З увагі на тое, што так многа правільных адказаў на адгаданку, рэдакцыя прызнала 10 дадатковых кніжак.

Дадатковыя кніжныя ўзнагароды атрымалі: — Іван ДУДЗІЧ — Пасынкі; Валя МІСЕЮК — Відава; Лёнік ШЧАРБАЧ — Хілімоны; Міколка ВАППА — Вітава; Гвідон БАГДАНОВІЧ — Класова; Мікола ПАРФЕН — Грэбяні; Сяргей КАРДАШ — Навасады; Мікола БУБЕНЧЫК — Хілімоны; Вера ПЕТКЕВІЧ — Арэшкава; Міхась МАКСІМЯК — Трасцянка; Жэня ГРЭСЬ — Беласток і Люба ПЛЕВА — Койлы.

Узнагароды высылаем поштай.

Увага: Развязкі на складанку змешчаную ў 11 № «Нівы» дасылаць у рэдакцыю да 15 красавіка (а не да 15 сакавіка, як было напісана памылкова ў «Ніве»).